

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 26 (1541) 30 ЧЭРВЕНЯ 2021 г.

## Нацыянальную сімволіку забараніць немагчыма




Кожны народ мае асноўныя прыкметы: тэрыторыю засялення і мову. А калі народ становіцца нацыяй, то з'яўляецца нацыянальная сімволіка - герб і сцяг. Першая нацыянальная сімволіка ў Еўропе ўзнікла ў Францыі ў канцы XVIII ст. пасля Вялікай Французскай рэвалюцыі. На працягу XIX ст. сваю нацыянальную сімволіку распрацавалі і зацвердзілі ўсе вялікія дзяржавы Еўропы. Так, Аляксандр III зацвердзіў трыкалор у якасці расійскай сімволікі ў канцы XIX ст.

Пасля Першай Сусветнай вайны на палітычнай карце Еўропы з'явіліся новыя нацыі і новыя дзяржавы са сваімі нацыянальнымі сімваламі. Сярод іх і беларусы. Якраз у 1917 г. нацыянальны беларускі бела-чырвона-белы сцяг набыў сённяшні выгляд. А розныя варыянты герба Пагоня ўзялі беларусы і літоўцы, якія пэўны час жылі ў адной дзяржаве.

У 1918 г. беларусы ўпершыню абвесцілі пра сваю незалежнасць на сваёй этнічнай тэрыторыі і пад новай назвай. Сцяг, герб і мова сталі прыкметай беларускай нацыі, якая пачала актыўна фармавацца. Нягледзячы на Рыжскую дамову, што разарвала Беларусь на некалькі кавалкаў, інтэлігенцыя Заходняй Беларусі, у тым ліку і камуністы, прызнавалі сцяг і герб як сімвал будучай незалежнай Беларусі. Не забываліся пра нацыянальны сцяг і герб і жыхары Усходняй Беларусі. Але падчас сталінскіх рэпрэсій нацыянальныя памкненні былі кардынальна знішчаны, у тым ліку фізічна. Пасля вайны па загаду Сталіна ўсе савецкія рэспублікі павінны былі мець свае сцягі і гербы на аснове сцяга і герба Савецкага Саюза. Тым не менш, яшчэ ў часы перабудовы народы Усходняй Еўропы і СССР імкнуліся прапагандаваць свае гістарычныя нацыянальныя сімвалы і імі карыстацца.

Пасля распаду СССР у 1991 г. народы Савецкага Саюза, што стварылі незалежныя дзяржавы, адрадзілі сваю сімволіку без аніякай праблемы. Гэтая сімволіка была прызнана ў свеце. Беларусы і літоўцы мелі свае варыянты Пагоні, якія адрозніваліся.

Вярхоўны Савет Беларусі XII склікання, які складаўся з людзей розных палітычных поглядаў і нацыянальнасцяў, 2/3 галасоў зацвердзіў нацыянальную сімволіку Беларусі як дзяржаўную. І нават падчас рэферэндуму 1995 г. больш за палову жыхароў Беларусі адмовілася падтрымаць новы варыянт постсавецкай сімволікі, прыдуманай недасведчанымі людзьмі. Таму невыпадкова пры кожнай магчымасці беларускія патрыёты ўнутры краіны і за мяжой падчас нацыянальных святаў карысталіся нацыянальнай сімволікай. Гэта працягваецца па сённяшні дзень. Таму любыя спробы пазбавіць беларускі народ нацыянальнай сімволікі і мовы толькі ўзмацняць палітычную актыўнасць грамадзян нашай краіны за сваю еўрапейскую тоеснасць.

*Заява Сакратарыята ТБМ імя Ф. Скарыны ад 23.06.2021 г.*




## У Лідскім раёне асвечана царква ў гонар свяціцеля Лукі Крымскага

Гістарычная падзея 26 чэрвеня 2021 адбылася ў жыцці праваслаўных жыхароў аграгарадка Ёдкі - тут упершыню ў гісторыі асвечаны пасад праваслаўнага храма. Нябесным заступнікам яго стаў вядомы лекар і святы Лука Крымскі.

Калі ў 2014 годзе ў Навагрудскай епархіі было прынята рашэнне пра будаўніцтва ў Ёдках праваслаўнай царквы (тады ж тут была афіцыйна зарэгістравана праваслаўная грамада), мясцовае насельніцтва, а гэта жыхары не толькі аграгарадка Ёдкі, але і размешчанай побач вёскі Навіцкія-2, успрынялі гэтую вестку з натхненнем. Адразу ж пачаўся актыўны збор сродкаў для будучага будаўніцтва. Праўда, пачаць і весці яго з нуля было зусім не проста. Таму працэс зацягнуўся. Аднак воляю лёсу (промыслам Божым) здарылася так, што сёлета Лідскім райвыканкамам у распараджэнне праваслаўных вернікаў быў бязвыплатна перададзена будынак былога Дома культуры.





*Абраз свяціцеля Лукі Крымскага ва ўбранні з нацыянальнай колернай гамай*

Канструктыўна тут і перабудоўваць амаль нічога не трэба было. У былой глядзельнай зале - царква. Сцэна - алтар.

Перш за ўсё, мінулай зімой на даху будынка з'явіліся галоўныя атрыбуты храма - пазалочаныя купалы з крыжамі. Напачатку вясны быў набыты іканастас. У траўні пачаліся рамонтныя работы: унутраная, вонкавая афарбоўка, уладкаванне храма. Усё гэта рабілі людзі - мясцовыя жыхары.

Першы храм на Лідчыне названы ў гонар вядомага лекара і святога - Лукі Крымскага. Гэта нябесны заступнік лекараў і ўсіх, хто мае патрэбу ў лячэнні. Будучы святар, у свеце - Валянцін Феліксавіч Война-Ясянецкі - нарадзіўся 27 красавіка 1877 года ў Керчы. Дарэчы, яго дзед родам з беларускіх земляў. Сваё жыццё Валянцін Война-Ясянецкі прысвяціў медыцыне як хірург і навуковец і духоўнаму служэнню, быўшы пасвечаным у святарства. У 1942 годзе епіскап Лука ўзведзены ў сан архіепіскапа. На крымскую зямлю прыбыў у 1946 годзе. Шмат сіл прыклаў, каб навесці парадак у епархіі, не пакідаючы пры гэтым медыцынскай практыкі, кансультуючы і аперыруючы ў Сімферопальскім вайсковым шпіталі, прымаючы хворых у сябе дома. Аўтарытэт уладыкі Лукі быў настолькі высокі, што хворыя падчас набажэнства спрабавалі дакрануцца да яго ўбору, верачы, што адзін толькі дотык дапаможа ім падужаць хваробу. Зямное жыццё архіепіскапа Лукі скончылася 11 чэрвеня 1961 года, у дзень Усіх Святых.

Уцешна, што менавіта цяпер, калі ўвесь свет пагружаны ў пандэмію і кожны з нас так востра мае патрэбу ў абароне нябеснай, у нас і з'явіўся храм у гонар гэтага святога.

Нельга абыйсці ўвагай і такі факт: абраз святога на аналоі майстэрскі вышыла бісерам лідзянка, інвалід Ірына Паддубовік, якая ў гонар свята здзейсніла яшчэ адзін свой подзвіг - насілу перасоўваючыся, наведала храм у момант яго асвячэння.

Характэрна, але і размясціўся храм каля скрыжавання дарог. У радасны момант урачыстага адкрыцця і асвячэнні яго запоўнілі вернікі.

Епіскап Лідскі і Смаргонскі Парфірый у саслужэнні духавенства здзейсніў чын асвячэння пасада новага храма. Прыгожыя, урачыстыя і таямнічыя былі гэтыя хвіліны набажэнства. Храм як быццам стаў Небам і ахінула яго сіла Духу Святога.



*Епіскап Лідскі і Смаргонскі Парфірый ва ўбранні з нацыянальнай колернай гамай*

Па завяршэнні ў новаасвечаным храме адбылася першая Боская літургія. Вернікі змаглі прыступіць да споведзі і прычасця.

***Паводле В. Яхантавай,***
*lidanews.*

# Справаздачны сход Менскай гарадской арганізацыі ТБМ



23 чэрвеня адбыўся запланаваны справаздачна-выбарчы сход Менскай гарадской арганізацыі ТБМ. Нягледзячы на спякоту, сябры прыйшлі, каб абраць новага лідара сталічнага ТБМ. Зміцер Марчук, які займаў пасаду кіраўніка арганізацыі г. Менска, зрабіў кароткую справаздачу пра дзейнасць за год. Затым прысутныя зацвердзілі яе, падзякавалі Зміцеру за працу і абралі новага старшыню. Ім стаў **Павел Чайкоўскі**, кіраўнік Фрунзенскай раённай арганізацыі ТБМ.

*Наш кар.*

## Справаздача аб дзейнасці Менскай гарадской арганізацыі ТБМ за перыяд ад 28.07.2020 да 23.06.2021

Арганізацыя за год страціла наступных сяброў:

10 верасня 2020 г ва ўзросце 68 гадоў адышоў у вечнасць Уладзімір Іванавіч Адамушка, кандыдат гістарычных навук, дзяржаўны дзеяч, даследчык рэпрэсій, старшыня архіўнай службы Беларусі, выкладчык.

У лістападзе 2020 года памёр ва ўзросце 87 гадоў Мікалай Галаўнёў, актыўны сябар ТБМ з 1995 года.

15 лютага ва ўзросце 71 год памёр ад каранавіруса Лявон Дзейка, дэпутат Вярхоўнага Савета 12 склікання, адзін з адраджэнцаў і кіраўнікоў БСДП НГ, які намагаўся зрабіць беларускую мову адзінай дзяржаўнай.

17 студзеня ў 92 гады нас пакінуў доктар гістарычных навук, прафесар Леанід Лыч, які выдаваў кнігі ў розных галінах навукі на роднай мове.

28.07.2020 г. адбылася справаздачна-выбарчая канферэнцыя Менскай гарадской арганізацыі ТБМ.

650 чалавек было вылучана ад ТБМ назіральнікамі на выбарчыя ўчасткі на так званыя выбары, праз якія некаторыя нашыя паплечнікі патрапілі ў вязніцы і церпяць здзекі і пакуты за любоў да роднай мовы.

9 верасня 2020 года ў сядзібе ТБМ адбылося ўрачыстае ўручэнне медалёў да 100-годдзя БНР выдатным асобам Беларусі за іх ўнёсак у развіццё культуры і дэмакратыі: Зінаідзе Бандарэнцы, Ніне Багінскай, Іосіфу Сярэдзічу, Міколе Купаву, Міхасю Скоблу.

З 3 па 17 верасня ў палацы мастацтваў знакаміты адраджэнец беларускай мовы і культуры мастак Аляксей Марачкін ладзіў выставу "Армагедон".

6 верасня сябры арганізацыі ўдзельнічалі ў мерапрыемствах, прысвечаных Дню беларускага пісьменства.

16 кастрычніка ў Палацы мастацтваў майстар паэтычнага слова Эдуард Акулін зладзіў прэзентацыю кнігаў "Падзяліцца поўняй" і "Плашчаніца".

18 кастрычніка сябры нашай арганізацыі прынялі ўдзел у 14 з'ездзе ТБМ.

21 кастрычніка ў сядзібе ТБМ адбылася творчая сустрэча з пацярпелымі акторамі тэатра імя Янкі Купалы.

3 лістапада ў філіі Дзяржмузея беларускай літаратуры Беларуская хатка, адбылася цырымонія развітання з пісьменнікам Змітраком Бядулем, парэшткі цела якога вярнулі на Беларусь з Казахстана і пахавалі на Усходніх могілках.

4 лістапада ТБМ павіншавала з 80-тымі ўгодкамі выдатнага беларускага паэта Яўгена Гучка.

У той жа дзень у сядзібе ТБМ сябар сакратарыята ТБМ і Саюза беларускіх пісьменнікаў паэтка Святлана Багданкевіч падзялілася радкамі са сваёй кнігі "Як усё было".

Яшчэ ў лістападзе ў Акадэмкнізе наш ганаровы старшыня ТБМ гісторык Алег Трусаў прэзентаваў сваё новае выданне, прысвечанае эвалюцыі беларускіх будынкаў 11-18 стагоддзяў.

24 студзеня 2021 года ўдзельнічалі ў Радзе ТБМ, на якой за адраджэнне і пашырэнне беларускай мовы былі ўзнагароджаны ганаровымі граматамі Валянціна Раманцэвіч і Алесь Рымша.

21 лютага ў Міжнародны дзень роднай мовы ў сядзібе ТБМ ладзілася дыктоўка.

22 лютага да Дня роднай мовы ў Акадэміі навук адбылася прэзентацыя зборніка матэрыялаў канферэнцыі "Нашы вякі - наша багацце".

24 лютага ў сядзібе ТБМ правялі вечарыну памяці прафесара гісторыка Леаніда Лыча, на якой выступілі старшыня ТБМ Алена Анісім, прафесар Эмануіл Іофэ, мастак Алесь Цыркуноў, Ігар Карашчанка.

10 сакавіка ў сядзібе ТБМ адбылася прэзентацыя кнігі "Сцежкамі гісторыка" журналіста Аляксея Шалахоўскага з удзелам прыхільнікаў беларускай мовы Ніны Багінскай, Яна Грыба, Міколы Бамбізы, Уладзіміра Азёмы, барда Аляксея Галіча.

У сакавіку 85 гадоў адзначала пісьменніца, літаратуразнаўца і крытык Лідзія Сымонаўна Савік, старэйшы навуковы супрацоўнік інстытута літаратуры НАН, чалец Саюза беларускіх пісьменнікаў, былы сакратар ЗБС "Бацькаўшчына".

24 сакавіка ў гонар 103-х угодкаў БНР у сядзібе ТБМ была адкрыта мастацкая выстава старшыні Партызанскай рады і вядомага мастака Алеся Цыркунова.

26 сакавіка Кастрычніцкая рада ТБМ адзначыла Дзень Волі з паэтам Уладзімірам Някляевым, ганаровым дыктарам Беларускага тэлебачання Зінаідай Бандарэнкай, дэпутатам Парламента Паўлам Знаўцом, бардам Аляксеем Галічам, ганаровым старшынём Кастрычніцкай рады ТБМ Янам Грыбам.

# Жывая вада беларускага слова патрэбна ўсім

Юныя чытачы Менскай дзіцячай бібліятэкі № 5 на вакацыях сустрэліся з пісьменнікам Аляксеем Шэінам, аўтарам папулярнага рамана-фэнтазі "Сем камянёў", (які ў 2017 годзе ўваходзіў у пяцёрку найбольш папулярных выданняў у дзіцячых бібліятэках), і пачулі словы на роднай беларускай мове пра тое, што дабро павінна перамагчы зло, бо ёсць Бог, Праўда і Вера, і трэба жыць з любоўю і рабіць дабро адзін аднаму.





У краіне Эферыі запанаваў злы ўладар Вормар, але хлопчык Ясь адважыўся пусціцца ў падарожжа на пошукі жывой вады, якая можа ацаліць яго сяброўку Мірку - такая сюжэтная канва кнігі "Сем камянёў".

Журналіст, пісьменнік, рэдактар дзіцячага часопіса "Асцярожна, дзеці!" Аляксей Шэін не спыняецца рабіць дабро. У мінулым годзе ён быў адным з 12-ці герояў кнігі "Лініі святла" і застаецца носьбітам Святла. Кніга перададзена ў дзіцячую бібліятэку з аўтографам героя.

Дзеці даведаліся, што Аляксей нарадзіўся ў Менску ў 1976 годзе, а яго дзяцінства праходзіла ў Гародні, дзе сям'я жыла ў палацы князёў Масальскіх, у жылым доме XVII стагоддзя, адным з самых старых у горадзе. Там знаходзіўся інтэрнат медыцынскага ўніверсітэта, у якім выкладаў французскую мову бацька Аляксея - Георгій Мікалаевіч. У дзіцячых успамінах засталіся замкі, палацы, касцёлы.

Маці Аляксея, Вольга Васільеўна, была журналісткай і працавала ў абласным тэлерадыёцэнтры. Аляксей з дзяцінства любіў прыгодніцкую літаратуру, захапляўся Жулем Вернам і іншымі аўтарамі, марыў напісаць сваю кнігу. У Гародні ён скончыў школу з мастацкім ухілам і ў 1991 годзе паступіў у Менску ў ліцэй пры БДУ ў клас беларускай філалогіі. Перад паступленнем юнак некаторы час жыў у дзеда, гісторыка і краязнаўца, у Ракаве.

Кантактуючы з сябрамі дзеда, ён адчуў, што ў беларусаў ёсць свая багатая гісторыя, што на нашай зямлі жылі незвычайныя асобы, князі Міндоўг, Вітаўт і Альгерд, і яго гэта вельмі зацікавіла! З сябрамі па ліцэйскім класе БДУ ён перайшоў на беларускую мову, пачаў чытаць мастацкія творы.

Скончышы беларускае аддзяленне філфака БДУ, Аляксей займаўся журналістыкай, быў фрылансерам, працаваў у газеце "Літаратура і мастацтва" ў аддзеле публіцыстыкі пад кіраўніцтвам Барыса Пятровіча Сачанкі ў 1995 годзе, а потым - у кампаніі "БелаПАН", вучыўся ў магістратуры ў ЕГУ.

У 2008-2017 гадах Аляксей Шэін праводзіў папулярныя інтэрактыўныя курсы "МоваВеда". Займацца на курсах прыходзілі людзі самых розных прафесій: эканамісты, айцішнікі, будаўнікі. У 2017 годзе А. Шэін спрычыніўся да шырокага святкавання кампаніі "Наша 500-годнасць", выступаючы ў розных бібліятэках і грамадскіх установах краіны з інфармацыяй пра асветніцкую дзейнасць Францішка Скарыны. У суаўтарстве з кандыдатам гістарычных навук Андрусём Унучакам Аляксей Шэін напісаў п'есу "1517", якая была пастаўлена рэжысёрам Паўлам Харланчуком.



Спадар Аляксей - актыўны сябар ТБМ і Саюза беларускіх пісьменнікаў. У спадара Аляксея трое дзяцей - Ян, Сымон і Якуб, якія дапамагаюць яму быць у курсе дзіцячых зацікаўленасцяў і выдаваць захапляльны часопіс.

На сустрэчы ў бібліятэцы дзеці задалі спадару Аляксею шмат пытанняў, асабліва іх цікавіў працяг прыгодніцкага рамана "Сем камянёў". Аўтар запэўніў, што працяг будзе.

***Эла Оліна**, фота аўтара.*

# Спявай, маё сэрца, у родную мову ўлюбёнае...

**6 ліпеня спаўняецца 80 гадоў сябру Валожынскай суполкі ТБМ, настаўніцы, арганістцы касцёла Адведзінаў Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Вішневе, творчай асобе Трапашцы Марыі Іосіфаўне.**

**З нагоды шаноўнага юбілею мы, сябры Валожынскай суполкі ТБМ імя Ф. Скарыны, віншуем Вас, спадарыня Марыя, жадаем ласкі Божай, моцнага здароўя і здзяйснення творчых задум на дабро людзям і Бацькаўшчыне.**

Нарадзілася юбілярка ў в. Навасёлкі Вішнеўскага с-с Валожынскага р-на ў простай, працавітай сям'і Гаўрысоў, дзе выхаванне ішло строга, без патакання. Змалку запомніліся паходы ў Вішнеўскі касцёл, дзе маці Браніслава Антонаўна любіла спяваць падчас святой імшы. А спявала хораша, з пачуццём. Здольнасць і цяга да музыкі ад маці передаліся і дзецям. Брат Баляслаў майстраваў струнныя музычныя інструменты, на якіх сястра Марыя вучылася іграць. Відаць, з таго часу і з'явілася мара звязаць свой лёс з музыкай, з песняй. І да здзяйснення сваіх мар яна ідзе настойліва і мэтанакіравана: вучоба ў вячэрняй школе, курсы баяністаў, вучоба ў Маладзечанскім музычным вучылішчы, дзе асвоіла ігру на фартэпіяна, любіла спяваць у хоры. Потым вучоба на філалагічным факультэце Белдзяржуніверсітэта, праца ў клубе, школе...

Асаблівую асалоду прыносяць спевы і ігра на аргане ў касцёле. Тут, у храме, душа найбольш адчувае ўзвышэнне і супакой, бо бліжэй да Бога, тут чалавек найлепш разумее сэнс свайго прыходу на гэты свет і настройваецца на рэалізацыю Божага дару. А дар юбілярка мае і музычны, і паэтычны. Яшчэ з юнацтва захапляецца паэзіяй, піша вершы на роднай мове, любоў да якой глыбока запала ў сэрца. Падбірае мелодыю да ўласных твораў і твораў іншых паэтаў, як землякоў-аматараў, так і масцітых творцаў, такіх, як Ніл Глевіч, М. Дукса і інш. Робіць пераклады з іншых славянскіх моў, апрацоўвае традыцыйныя беларускія касцёльныя песні...

Галоўны накірунак яе творчасці ярка выражаны - беларуская духоўная песня, напоўненая ціхай радасцю, супакоем, а часам шчымлівым болем і трывогай... Яе творы - гэта сінтэз, сугучча мелодыі, слова, веры, якія кранаюць сваёй шчырасцю, сардэчнасцю, пранікнёным лірызмам. Гэта тое, што даецца ад Бога. А каб упэўніцца ў гэтым, варта пагартаць зборнікі - плён яе высакароднай працы, іх чатыры: першы - Зборнік рэлігійных песень (словы і музыку напісала сама), які, дзякуючы намаганням Гая дэ Пікарда, выйшаў у Лондане і які зараз у нас выкарыстоўваюць у касцёлах, прыгадаю хоць бы песню "Не спі, абудзіся"; зборнік рэлігійных песень на вершы Віталя Кунашкі (ураджэнец Вішнеўшчыны) "Дакраніся да неба"; парафіяльны спеўнік "Багаславі нас, Маці", прысвечаны святой памяці ксяндза Чарняўскага; зборнік песень "Надзеі прамень" (на ўласныя вершы, вершы іншых творцаў), прысвечаны народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу.



Марыя Трапашка заўсёды ў творчым пошуку новых паэтычных радкоў, мелодый, якія сілкуюць яе жыццё, надаюць сілы, наталяюць душу... Адразу ж рэагуе на знакавыя падзеі, якія адбываюцца ў краіне. Як шчырая патрыётка і глыбока веруючы чалавек, яна моцна перажывае за лёс Бацькаўшчыны, за лёс кожнага добрага чалавека. Вялікім болем і журбою адгукнулася яе чуйнае сэрца на смерць Рамана Бандарэнкі: нарадзілася песня "Ты выйшаў не ў двор" як рэквіем па ўсіх загінуўшых (песню можна знайсці ў інтэрнэце). І ўвогуле, Марыя Іосіфаўна заўсёды была ў гушчыні падзей, якімі віравала жыццё 80-90 гг. Перажывала за стан беларускай мовы і пры патрэбе станавілася ў яе абарону. Хвалявала пытанне адносна роднай мовы ў храмах Беларусі. З аднадумцамі падтрымлівала ксяндза Чарняўскага ў справе беларушчыны, уступіла ў грамадскую арганізацыю БКГ (беларуская каталіцкая грамада), у ТБМ імя Ф. Скарыны была з самага пачатку, яшчэ пры старшынстве Н. Гілевіча.

Працуючы ў Валожынскай школе-інтэрнаце, цяпло свайго сэрца аддавала дзецям-сіротам, клапацілася аб іх духоўнасці: многіх давяла да першай споведзі, пахрысціла. З імі ж са спевамі ездзіла па Валожыншчыне, спявала ў храмах сталіцы, паспяхова выступала на песенным фестывалі хрысціянскай песні і музыкі ў Магілёве "Магутны Божа", потым у Германіі. Марыя Іосіфаўна - мудры педагог і таленавіты мастацкі кіраўнік. Хоры, якімі яна кіравала (як дарослымі, так і дзецьмі), заўсёды станавіліся пераможцамі розных конкурсаў. Творчасцю яе цікавяцца і прафесійныя калектывы. Яе песні гучаць у выкананні Беларускай Дзяржаўнай капэлы, хору імя Г. Цітовіча. У далёкай Англіі, Германіі і, канешне ж, у сваім родным Вішнеўскім касцёле. І адметныя яны сваёй самабытнасцю, напеўнасцю, лёгкасцю ўспрымання мелодыі, што ўласціва традыцыйнай народнай беларускай песні.

Вось так усё сваё жыццё - разам з добрымі людзьмі, родным словам і песняй, аб чым сама аўтарка і гаворыць: "Спявай, маё сэрца, у родную мову ўлюбёнае..."

*Людвіка Таўгень,*
*старшыня Валожынскай суполкі ТБМ.*




### Маёй настаўніцы, калезе, духоўна багатаму чалавеку...

У жыцці кожнага знойдзецца чалавек, які пакідае свой значны след і добры ўспамін. Лёс звёў мяне з такім чалавекам неаднойчы. Першы - калі Марыя Трапашка прыйшла працаваць настаўнікам у Няроўскую школу ў далёкія 60-я гады. Маладая, узнёслая, незвычайна прыгожая, яна адразу заваявала нашы сэрцы. Як жа было не захапляцца, калі з-пад яе рукі пяшчотна лілася мелодыя, якая зліvалася з мілагучным голасам. Дзякуючы ёй, мне ўдалося засвоіць музычную грамату і тэхніку ігры на баяне, што потым вельмі спатрэбілася. Другі - у Валожынскай школе-інтэрнаце, ужо калегамі. Ізноў нас з'яднала песня. І ўрэшце - у ТБМ, як аднадумцы, сябры...

Гучыць мая родная мова,
І вочы натхнёна гараць.
Мне хочацца цёплыя словы
За добрую працу сказаць.

За тое, што нам падарылі
Сугучнасць мелодый цішы,
Якія ўзнёсла ўсхвалілі
Бясконцасць і сціпласць Душы.

Заўсёды паслухаць прыемна,
Як песня ляціць у прасцяг,
І голас ліецца напеўна,
І сэрца шчыміць у грудзях.

Бо сэрца не можа іначай,
Яно не шукае спакой.
Са шчырай любоўю, душою гарачай
Вас бачым заўсёды такой.

Няхай жа гучыць наша мова
І вочы натхнёна гараць,
А цёплыя, шчырыя словы
Заўжды на Ваш адрас гучаць.

*Галіна Гражынская,*
*сябра Валожынскай суполкі ТБМ.*

*Уладзімір Бармута*

# ПЕРАКЛАДЫ

*Іван Бурсаў*

### БАЛАДА ПРА НЯВЫКАНАНЫ ЗАГАД

У родную зямлю салдат урос.
Салдат аглух ад выбухаў і звону.
Загад аб адступленні не данёс
яму ахрыплы голас тэлефона.

Зноў пачынае, адступіўшы, бой
знямоглая, але жывая рота,
прыкрытая ад ворага ракой
і лбом упартага ручнога кулямёта.

Дарма стараўся ўладны тэлефон
прарвацца да байца праз кананаду…
Быў пасмяротна ўзнагароджан ён,
салдат, які не выканаў загаду.

*Валерый Брусаў*

### ПАД ЖУРЧАННЕ ГАДАВЕРЫ

Ліст шырокі, ліст банана,
пад журчанне Гадаверы,
ціхім ранкам - рана, рана -
памажы кахаць і верыць!

Архідэі і мімозы
несучы па плёсе сонным,
асушы надзеяй слёзы,
захавай вянок мой поўным.

А калі па-за туманам
не пабачу цябе болей,
ліст шырокі, ліст банана,
я маліцца выйду ў поле.

Для цябе, багіня Шчасця,
для цябе, суровы Кама,
завушніцы і запясці
пакладу я каля храма.

Ліст шырокі, ліст банана,
калі зрынеш ношу ў Лету,
ціхім ранкам - рана, рана -
скіну я ўсе амулеты.

Пад журчанне Гадаверы
панясу тугу я ў далі,
каб вар'яцты баядэры
памагла багіня Калі!

*Максімiліян Валошын*

***

Чакаў я мукі шмат гадоў
усёю цэльнасцю нязведанага шчасця.
Як ціхі сіні ранак, боль прыйшоў
і сэрца мне абвіў, нібы запясце.

Прамень жаданы мне прынёс
такія палкія, пакутлівыя ласкі.
Праз вейкі, мокрыя ад слёз,
убачыў: зацвілі дзівоснейшыя краскі.

І сэрца стала, як са шкла,
і ў ім спявала тонка рана:
"Калі б ты, мука, ні прыйшла,
заўжды прыходзіш вельмі рана."

*Гаўрыла Шутэнка*

### РАСІНКІ

Край Навагрудскі
светлы мой!
Ну, як не пець мне
ў дні вясновыя?
У жытняй зелені густой,
расінцы кожнай -
вершы новыя.

# Памяці Леаніда Левановіча



12 чэрвеня 2021 года не стала беларускага пісьменніка Леаніда Кірэевіча Левановіча. Яму было 82 гады. Літаратар нарадзіўся 14 верасня 1938 года ў вёсцы Клеявічы Касцюковіцкага р-на Магілёўскай вобласці ў сялянскай сям'і . У 1945-1952 гг. вучыўся ў Клеявіцкай сямігадовай школе, якую закончыў на "выдатна". Пасля паступіў у Магілёўскае культасветвучылішча. Скончыўшы яго ў 1956 годзе, працаваў інструктарам Дзяржынскага раённага дома культуры Менскай вобласці (1956-1957), загадчыкам сельскага клуба ў вёсцы Гаўрыленка Касцюковіцкага раёна (1957-1958), дырэктарам РДК у г. Касцюковічы (1958). У 1957 годзе паступіў на завочнае аддзя-ленне факультэта журналістыкі БДУ. Служыў на Балтыйскім флоце і завочна вучыўся на журфаку БДУ (1958-1961). Пасля заканчэння службы перавёўся на стацыянар і ў 1963 годзе скончыў вучобу. Працаваў у газеце "Знамя юности" (1963-1965), у "Сельскай газеце" (1965-1969), у штотыднёвіку "ЛіМ", у часопісе "Нёман", затым загадваў аддзелам навукі часопіса "Полымя" (1974-1980). У 1980-1982 гг. працаваў галоўным рэдактарам літаратурна-драматычных перадач Беларускага тэлебачання. З 1982 г. займаўся творчай працай. З 1984 па 2000 г. - рэдактар, ст. рэдактар, загадчык рэдакцыі збору твораў выдавецтва "Мастацкая літаратура". З 2000 г. - на пенсіі.

Творчы дэбют адбыўся у1963 годзе апавяданнем "Русакова дарога".У 1960-1970-я гады выступаў як нарысіст. Значныя творы пісьменніка - раманы "Зялёны трохкутнік" (1973), "Мадонна з кветкаю" (1976), "Якар надзеі" (1978), "Валанцёр свабоды" (1983), раманаў "Шчыглы" (1986), "Паводка сярод зімы" (1989), "Дзікая ружа..." (1993), зборніка "Вяртанне ў радыяцыю" (1997), раманаў "Сіняе лета" (2005), "Бесядзь цячэ ў акіян" (2007), "Палыновы вецер" (2009).

З'яўляўся ганаровым грамадзянінам Касцюковіцкага раёна. Вёў актыўную грамадскую працу: быў сябрам бюро секцыі прозы Саюза пісьменнікаў Беларусі, а таксама намеснікам старшыні таварыства "Беларусь - Казахстан". Таксама атрымаў вядомасць як драматург. Актыўна друкаваўся ў незалежных СМІ.

Узнагароджаны граматай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь (1998), Літаратурнай прэміяй імя Івана Мележа (1999), прэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005), дыпломам III ступені Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу "Лепшы твор 2009 года" за кнігу прозы "Палыновы вецер" (2009)

З вялікім смуткам пра зыход спадара Леаніда Левановіча выказаўся ягоны сябар, славуты празаік Эрнэст Ялугін.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры,*
*журналіст- фрылансер.*

# Адлегласць аб'яднала нашчадкаў Вялікай Перамогі

Надоўга застануцца ў памяці маладога пакалення лідзян успаміны аб сустрэчы з удзельнікамі міжнароднага патрыятычнага аўтамаршу "Дарогамі сібірскай славы: Краснаярск - Брэст - 2021", прысвечанага 80-годдзю пачатку Вялікай Айчыннай вайны. На працягу двух дзён госці з Расіі знаёміліся з месцамі баявой славы горада Ліды і гістарычна-культурнай спадчынай.

Вучні 11-й лідскай школы таксама мелі магчымасць пазнаёміцца з удзельнікамі экспедыцыі і прыняць удзел у адным знакавым мерапрыемстве. Нашчадкі Вялікай Перамогі, прадстаўнікі брацкіх народаў Расіі і Беларусі, аддалі даніну памяці подзвігу сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў каля вечнага агню на цэнтральнай плошчы горада. Мітынг сабраў прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў. Асаблівым і запамінальным ён стаў для дзяцей і падлеткаў.



Тое, што аўтамарш "Дарогамі сібірскай славы" спыніўся ў Лідзе не выпадкова, мы зразумелі, калі пачулі словы адзінай жанчыны аўтамаршa - Лідзіі Коршунавай, маёра авіяцыі ў запасе, кіраўніка пошукавага атрада "Памяць". Яна расказала аб тым, што мае прамыя адносіны да нашага горада: яе бацька ў 1941 годзе служыў у Лідзе і тут ён сустрэў першыя дні вайны, і імя Ліда яна атрымала не выпадкова - яе назвалі ў гонар нашага горада. Усё жыццё яна марыла ўбачыць горад, чыё імя носіць 60 гадоў. Лідзія Арцёмаўна падзялілася ўспамінамі свайго таты і паабяцала прывезці сваіх дзяцей і ўнукаў у наш горад.





Хвілінай маўчання ўшанавалі прысутныя памяць загінуўшых і ўсклалі да вечнага агню жывыя кветкі. Фінальным акордам мітынгу стаў удзел лідзян і расіян у разгортванні маштабнай копіі Сцяга Перамогі. Пад гукі "Дня Перамогі" палатно лунала хваляй і хвалявала сэрцы і дарослых, і дзяцей.

Хочацца адзначыць, што нягледзячы на вялікую адлегласць, якая раздзяляе Ліду і Краснаярск, нашчадкі Вялікай Перамогі і сёння разам. І гэта асабліва знакава і сімвалічна ў Год народнага адзінства.

***Наталля Анашкевіч,***
*класны кіраўнік 8 Б класа*
*сярэдняй школы № 11 г. Ліды*

# Пабачыў свет чарговы зборнік навуковых артыкулаў "Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць"

У зборнік "Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць" увайшлі навуковыя артыкулы ўдзельнікаў XII Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць".

Навуковая канферэнцыя адбылася 25 - 26 чэрвеня гэтага года ў горадзе Магілёве. Чарговая навуковая сустрэча была прысвечана 80-годдзю гераічнай абароны Магілёва ў ліпені 1941 года. У канферэнцыі бралі ўдзел навукоўцы з Беларусі, Польшчы, Расіі і Украіны. Таксама былі запрошаны і мясцовыя краязнаўцы.

Зборнік пачынаецца прывітальным словам старшыні Магілёўскага гарадскога выканаўчага камітэта Уладзіміра Міхайлавіча Цумарава. Ён у прыватнасці адзначыў: *"Гісторыя Магілёва - глыбокая і цікавая тэма. Магілёўская зямля багата палітра крывёй абаронцаў Айчыны, і шмат старонак тых падзей яшчэ чакаюць свайго даследчыка. Магілёўцы памятаюць і паважаюць сваю гераічную гісторыю,*




*свае духоўныя каштоўнасці, якія перадаюць з пакалення ў пакаленне. Гістарычная памяць аб мінулым - гэта прыклад мужнасці, працавітасці, самаахвярнасці ў імя нашай Радзімы. Гэта тое, што прымушае нас да далейшага пастапальнага развіцця, да новых здзяйсненняў, якія будуць упісаны ў летапіс сучанай гісторыі горада".*

Усяго ў зборнік увайшлі 64 паведамленні, якія асвятляюць тэмы гераічнай абароны Магілёва і падзеі Вялікай Айчыннай вайны на Магілёўшчыне, старажытную гісторыю, сацыяльна-эканамічныя, палітычныя, культурныя, канфесійныя і духоўныя працэсы, імёны славутых землякоў. У зборніку захаваныя погляды, арфаграфія і мова аўтараў. Адрасуецца даследчыкам, студэнтам, краязнаўцам, усім тым, хто цікавіцца рэгіянальнай гісторыяй Беларусі.

У зборнік увайшло паведамленне "Могілкі Шклова", аўтарам якога з'яўляецца Алесь Грудзіна (Шклоўская арганізацыя ТБМ).

***Наш кар.***








## Ахвяраванні на ТБМ

1. Ігнат - 10,00 р.
2. Міркоўская В.І. - 20,00 р.
3. Паляшчук Вольга Уладзімір. - 50,00 р.
4. Кузьміч Рыгор Уладзіміравіч - 50,00 р.
5. Птушкін Вадзім Валер'евіч - 50,00 р.
6. Шыкло М.Ю. - 20,00 р.
7. Сівец Аляксандр Леанідавіч - 20,00 р.
8. Багародзь - 10,00 р.
9. Іваненка Дзмітрый Пятровіч - 10,00 р.
10. Красноў В.В. - 100,00 р.
11. Тарасава Л.С. - 5,00 р.
12. Дайнека А.В. - 30,00 р.
13 Юрэвіч - 4,45 р.
14. Чарняцоў Віталь Мікалаевіч - 7,00 р.
15. Каржоў П.А. - 200,00 р.
16. Ахраменка Яўген - 20,00 р.
17. Турандзіна Г.А. - 20,00 р.
18. Дамарацкі М.Ю. - 100,00 р.
19. Галавач В.М. - 20,00 р.
20. Хацько С. В. - 10,00 р.
21. Кручкоў Сяргей Мікалаевіч - 25,00 р.
22. Сасноўскі П.А. - 50,00 р.
23. Стахейка Сяргей Рыгоравіч - 10,00 р.
24. Dvtcnt - 10,00 р.
25. Сляпцоў Уладзіслаў Пятровіч - 20,00 р.
26. Кур'ян Яўген Сергеевич - 100,00 р.
27. Урублеўская А.К. - 50,00 р.
28. Халецкі М. В. - 5,00 р.
29. Пракоф'еў Аляксандр Сярг. - 10,00 р.
30. Дварэцкі Андрэй Вадзімавіч - 10,00 р.
31. Таненя Марына Георгіеўна - 10,00 р.
32. Галавачоў Максім Васільевіч - 15,00 р.
33. Сідляронак Е.А. - 50,00 р.
34. Клімёнак Канстанцін Грыгор. - 100,00 р.
35. Бут-Гусаім Раман Аляксандр. - 10,00 р.
36. Авакян А.І. - 10,00 р.
37. ВВВ - 10,00 р.
38. Сняткоў - 20,00 р.
39. Гутовіч Наталля Рамуальд. - 100,00 р.
40. Сіканевіч Ірына Васильевна - 30,00 р.
41. Віхніна А. - 20,00 р.
42. Вікторчык Н.С. - 15,00 р.
43. Фёдараў Яўген Аляксандравіч - 15,00 р.
44. Тутэйшы - 10,00 р.
45. Завадскі Аляксей Андрэевіч - 20,00 р.
46. Шынкевіч Аляксандр Алякс. - 30,00 р.
47. Рыбачонак А.М. - 30,00 р.
48. Кулакоў Павел Аляксандравіч - 30,00 р.
49. Сняжкоў Д. А. - 30,00 р.
50. Філонаў Кірыл Міхайлавіч - 25,00 р.
51. Панько Вольга - 20,00 р.
52. Саўрук У.А. - 30,00 р.
53. Ваўчкова М.С. - 50,00 р.
54. Упячка Ш.П. - 25,00 р.
55. Малаковіч Святлана Алегаўна - 30,00 р.
56. Паўлоўская Вольга Уладзімір. - 20,00 р.
57. Цырусь Пётр Міхайлавіч - 25,00 р.
58. Наскова Вера Міхайлаўна - 20,00 р.
59. Мультан Ігар Аляксандравіч - 10,00 р.
60. Б.В.Л. - 4,80 р.
61. М - 5,00 р.
62. Бяльковіч Алена Тадэвушаўна - 20,00 р.
63. Любін Мікалай Паўлавіч - 20,00 р.
64. Корачкіна А.В. - 30,00 р.
65. Сняжко К.А. - 20,00 р.
66. Дарашэвіч І.В. - 1,61 р.
67. Рымашэўскі А.А. - 20,00 р.
68. Кузьбар - 3,00 р.
69. ААА - 40,00 р.
70. Шапіра Дзмітрый Анатольевіч - 50,00 р.
71. Прохараў Мікалай Мікалаевіч - 30,00 р.
72. Іргер Дзмітрый Самуілавіч - 20,00 р.
73. Хлябовіч Анатоль Дзмітр. - 30,00 р.
74. Геўрасёва І.П. - 5,00 р.
75. Хобат Максім Міхайлавіч - 10,00 р.
76. Сталярова Хрысціна Юр'еўна - 10,00 р.
77. Дзешчыц Аляксандр - 10,00 р.
78. Бічан Наталля - 20,00 р.
79. Селядцоў Дзмітрый Андрэевіч - 5,00 г.
80. Трубачова Алена - 20,00 р.
81. Прыходзька Т. - 40,00 р.
82. Лапіцкі Ігар Валер'евіч - 20,00 р.
83. Пракашка Ілля Віктаравіч - 30,00 р.
84. Нікіцін Сяргей Вітальевіч - 50,00 р.
85. Самуха Вікторыя Мікалаеўна - 10,00 р.
86. Мацевіч Сяргей Леанардавіч - 20,00 р.
87. Зубкевіч - 30,00 р.
88. Рыльскі - 10,00 р.
89. Іргер Дзмітрый Самуілавіч - 10,00 р.
90. Язвінская В.А. - 15,00 р.
91. Мазанік - 48,97 р.
92. Вінаградаў Дзмітрый Мікал. - 20,00 р.
93. Ермаковіч Валерый Васільев. - 10,00 р.
94. Вольга - 50,00 р.
95. Давыдава - 10,00 р.
96. Сінькевіч Яўген Васільевіч - 50,00 р.
97. Калеснікава Вольга Канстанц. - 50,00 р.
98. Мелькаў Вячаслаў - 100,00 р.
99. Сікорскі Дзяніс Рыгоравіч - 100,00 р.
100. Ганчароў А.Г. - 10,00 р.
101. Ломава - 10,00 р.
102. Кісляк В.С. - 35,00 р.
103. Гуцуляк Іна Анатольеўна - 16,10 р.
104. Саладухіна Вольга Сергееўна - 10,00 р.
105. telegram @supermova - 251,30 р.
106. Ліўшыц Маргарыта Альберт. - 10,00 р.
107. Дыдо Зоя Аляксандраўна - 5,00 р.
108. Б/н - 200,00 р.
109. Беларус - 20,00 р.
110.Дубкоўская Алена - 10,00 р.
111. Пармон Аляксандр Аляксан. - 10,00 р.
112. Вепржыцкі У.В. - 50,00 р.
113. Зянькевіч Сяргей Міхайлавіч - 50,00 р.
114. Хадакоў Ігар Міхайлавіч - 30,00 р.
115. Манкевіч Віктар - 25,00 р.
116. ШВІ - 15,00 р.
117. Сеннікаў Павел Аляксандравіч - 5,00 р.
118. R - 7,65 р.
119. Тазаў Яўген Іванавіч - 15,00 р.
120. Мушавец Г.Г. - 5,00 р.
121. Б/н - 10,00 р.
122. Давідовіч Аляксандр - 25,00 р.
123. Харашэўская Е.М. - 10,00 р.
124. Чыгір Яўген - 10,00 р.
125. Штанюк Надзея Анатоль. - 50,00 р.
126. Сінякевіч Наталля - 7,00 р.
127. Патока Ілья Віктаравіч - 8,39 р.
128. Чайкоўскі Павел Іванавіч - 25,00 р.
129. Лешчанка Юрый Вячаслав. - 50,00 р.
130. Інкогніта - 10,00 р.
131. Вашкевіч А.В. - 15,00 р.
132. Мілеўская О.І. - 10,00 р.
133. Белякоў Міхаіл Сяргеевіч - 100,00 р.
134. П.С.Л - 5,00 р.
135. Чарнагузаў Васіль Мікалаев. - 50,00 р.
136. Крыласаў Анатоль Уладзім. - 80,00 р.
137. Верхаводка Мікалай Уладзім. - 30,00 р.
138. Крукоўскі Кірыл Яўгенавіч - 30,00 р.
139. Піскуновіч Міхаіл Антонавіч - 12,00 р.
140. Гацак Е.Л. - 10,00 р.
141. Касцевіч Андрэй Леанідавіч - 50,00 р.
142. 50 - 50,00 р.
143. Канкаловіч В.Г. - 50,00 р.
144. Качаноўская Наталля Георг. - 30,00 р.
145. Багдановіч - 15,00 р.
146. Пятроўскі Віктар Вячаслав. - 150,00 р.
147. Гідлеўскі Павел Раманавіч - 50,00 р.
148. Бабуля - 25,00 р.
149. Бабаш Дзмітрый Паўлавіч - 100,00 р.
150. Карнеева Алена Цімафееўна - 10,00 р.

Дзейнасць ГА "ТБМ імя Францішка Скарыны" па наданні роднай мове рэальнага статусу дзяржаўнай вымагае вялікіх выдаткаў. Падтрымаць ТБМ – справа гонару кожнага грамадзяніна краіны.

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава, 13, г. Мінск, 220034, альбо пералічыць на разліковы рахунак ТБМ № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні № 539 ААТ "Белінвестбанка" IBAN - BLBBBY2X (УНП 100129705) праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк.

*Навіны Германіі*

# Каронавірус: Германія абагнала Брытанію па ліку прышчэпленых

*По дадзеных Інстытута Роберта Коха, звыш 44 млн жыхароў ФРГ атрымалі як мінімум першую дозу вакцыны, а трохі больш за траціну насельніцтва лічыцца цалкам вакцынаваным.*




У Германіі, дзе кампанія па вакцынацыі ад каронавіруса пачалася ў канцы снежня 2020 год, да суботы, 26 чэрвеня 2021 года, па дадзеных Інстытута імя Роберта Коха, 44,4 млн, ці 53,3 % жыхароў краіны атрымалі першую дозу вакцыны. Як паказаў на сваёй старонцы ў сацсетцы Twitter міністр аховы здароўя ФРГ Енс Шпан (Jens Spahn), такім чынам, па колькасці прышчэпленых Германія ў абсалютных лічбах упершыню абагнала Вялікабрытанію.

Да 26 чэрвеня 2021 года першую дозу вакцыны, па дадзеных брытанскага ўрада, атрымалі 44,08 млн жыхароў Злучанага Каралеўства (66,1% насельніцтва). Цалкам вакцынанымі ў Вялікабрытаніі лічацца 32,244 млн чалавек (48,4% насельніцтва). Для параўнання: у Германіі гэты паказчык складае 28,9 млн чалавек, ці 34,8% насельніцтва.

Па статыстыцы Інстытута імя Роберта Коха, максімальная доля вакцынаваных першай дозай - у Брэмене (60,8% насельніцтва федэральнай зямлі). Акрамя Саксоніі, дзе першую прышчэпку атрымалі "толькі" 47,2% насельніцтва, усе федэральныя землі ўжо перасягнулі ў гэтай вобласці 50-адсоткавую мяжу. Найбольшая доля цалкам прышчэпленых пражывае ў зямлі Саар (41,1%), найменшая - у Брандэнбургу (32,2 %).

Сёння ў Вялікабрытаніі працягвае распаўсюджвацца новы, больш заразны ў параўнанні з вядомымі раней "дэльта"-варыянт каронавіруса. Лік інфікаваных гэтай мутацыяй SARS-CoV-2 расце і ў Германіі.

***DW.***

# Выйшаў "Верасень" № 24!

Выйшаў з друку чарговы, 24 па ліку, нумар літаратурна-мастацкага часопіса "Верасень".




Паэзія ў выданні прадстаўлена вершамі Касі Іофе, Ганны Рудак, Кацярыны Ваданосавай, Ірыны Грумандзь, Людмілы Сіманёнак, Яўгена Скібскага, Васіля Дэбіша і Станіслава Судніка.

Раздзел "Проза" складаюць апавяданні Алесі Чарнавокай, Сяргея Блінкоўскага, Юрыя Несцярэнкі, Лявона Валасюка, Паўла Ляхновіча і Вячаслава Лапціка.

У раздзеле "Пераклады" змешчаны вершы ўкраінскай паэткі Оляны Руты ў перакладзе Сяргея Панізьніка.

Раздзел "Крытыка" адкрываецца артыкулам Сяргея Панізьніка, прысвечаным юбілею "беларускага салаўя" - Міхася Забэйды- Суміцкага. Пра тое, што важней - - працэс або вынік, што мацней - Вера або Каханне і пра шмат чаго іншага - гутарка Эдуарда Акуліна з сёлетнім Лаўрэатам літаратурнай прэміі "Дэбют" імя Максіма Багдановіча Артурам Камароўскім. "Сваім ходам па Беларусі" праехалася і падзялілася ўражаннямі ад вандроўкі з чытачамі "Верасня" Кацярына Шчасная. Старажытны абрад "Страла" паўстае ў запісах Генадзя Лапаціна. Жыццёвыя і творчыя лёсы Міхася Васілька, Аляксандры Бергман і Паўла Крынчыка ўзнаўляюцца ў артыкуле Сяргея Чыгрына "Асобы Заходняй Беларусі". З чарговым літаратурным аглядам кніжных навінак выступае Алесь Аркуш. Дэбютную кнігу Артура Камароўскага "Вада пачынае жыць" разглядае ў сваёй рэцэнзіі Анатоль Трафімчык.

Мастацкае афармленне і вокладку нумара падрыхтавала Валерыя Праслава. Ілюстрацыі Юліі Давыдавай.

Пытайце "Верасень" № 24 на сядзібе ТБМ (Румянцава,13). Чытайце "Верасень" на сайце: Kamunikat.org. Дасылайце свае творы ў "Верасень" на адрас: verasenchas@gmail.com.

## *Зоф'я Кавалеўская*

# Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Сам гэты Сасёнка, сын тутэйшага землеўладальніка, з невядомых прычын агаварыў сябе, бацькоў і сястру ў распаўсюдзе Маніфеста Народнага ўрада, пастаўках зброі паўстанцам і г.д. Нудзячыся ў вязніцы, ён казаў Лясковічу, што калі больш знаёмых апынецца разам з імі ў астрозе, дык будзе весялей. Недасведчаны маладзён прыслухаўся да нашэптвання таварыша, і калі яго выклікалі на допыт, а ваенны начальнік павета Казаналі[32] падпаў яго віном, скампраметаваў сябе і многіх іншых асоб. Начальніку павета толькі гэта і было патрэбна. Гэта быў годны паплечнік знакамітага Барэйшы, вайсковага начальніка Вілейскага павета.

У хуткім часе на суседскіх пасядзелках у Юліяна Лясковіча, старэйшага брата Альберта "міравога пасярэдніка", у яго маёнтку Чаплаеўшчына быў арыштаваны сам гаспадар і яго госці: Зыгмунт Гадачэўскі з Мінайлы і Вільгельм Грабоўскі з Семятоўшчыны, якая пасля перайшла ў чужыя рукі. Адначасова былі арыштаваны Караль Тышкевіч з Жырмунаў і Браніслаў Нарбут з Нікадзімава, які ў той час знаходзіўся ў Наваградку на пасадзе сакратара З'езду міравых пасярэднікаў. Ён быў зусім недатычны да палітычных спраў і стаў ахвярай нейкага фальшывага даносу.

У Лідзе арыштавалі Бальтазара Калясінскага. Улада даўно ўжо мела на яго вока, але не спяшалася з арыштам, бо Калясінскі меў вялікую павагу сярод сялян і такі крок мог выклікаць вялікае хваляванне, адпор або якія-небудзь іншыя праблемы. Хітры ваенны начальнік павета вырашыў узяць яго падманам.

Некалькімі днямі раней ад апісаных падзей, калі ў Калясінскага сабралася кола знаёмых, Казаналі прыслаў капітана Баранава з патрабаваннем неадкладна прыбыць у канцылярыю. Бальтазар Калясінскі адмовіўся і патлумачыў гэта тым, што ў яго госці. Аднак, калі афіцэр дастаткова настырна паўтарыў загад, Калясінскі страціў цярпенне і буркнуў: "Пану Казаналі дарога да мяне такая ж роўная, як і мне да яго". Афіцэр пайшоў, а Казаналі вырашыў дзейнічаць па-іншаму. Ён паведаміў арыштаванаму Юльяну Лясковічу, што той будзе хутка высланы ў Расію, аднак, калі хоча, то можа паклікаць каго-небудзь са знаёмых у Лідзе, напрыклад Калясінскага, і перадаць яму пад апеку сваю сям'ю і інтарэсы.

Хуткая, бяспраўная дэпартацыя, такая частая ў тыя часы, не здзіўляла ўжо нікога. Таму вестачка, прысланая з вязніцы, не здзівіла Калясінскага і, прыгнечаны лёсам Лясковіча, ён тут жа пайшоў да яго, пакінуўшы дом і гасцей на свайго крэўнага Станіслава Калясінскага. Як толькі Бальтазар пераступіў парог вязніцы, яго атачылі ахоўнікі і замкнулі на ключ у камеры.

Занепакоены доўгай адсутнасцю родзіча Станіслаў Калясінскі выбег у горад, каб даведацца, што здарылася. Усе ўжо ведалі пра арышт Бальтазара. У любую хвіліну мог пачацца ператрус у яго доме. Там маглі быць дакументы, якія кампраметавалі іншых, нейкія сведчанні пра сувязь з камітэтам у Парыжы, грошы на патрэбы паўстання.

Знерваваны Станіслаў Калясінскі амаль што з боем дабіўся аўдыенцыі ў Казаналі, які не хацеў яго адразу прыняць. Калясінскі прасіў дазвол на сустрэчу са стрыечным братам. Казаналі яму адмовіў, і толькі пасля таго, як Калясінскі давёў, што ў кузена, як у міравога пасярэдніка могуць захоўвацца дзяржаўныя грошы, і што яны могуць страціцца падчасператрусу, за што Казаналі будзе асабіста адказваць, пан вайсковы начальнік змякчэў і, выклікаўшы афіцэра, загадаў суправаджаць Станіслава Калясінскага да вязніцы і прысутнічаць пры размове братоў.

"Казённые деньги" заўсёды давалі шанец на поспех сярод чыноўнікаў. Калі па дарозе да турмы ў казармах, дзе сядзеў Бальтазар Калясінскі, міналі рэстаран Андрушкевіча[33], Станіслаў прапанаваў афіцэру, які ішоў разам, невялікі сняданак.

За кілішкам шчыра разгаварыліся. Афіцэр вярнуўся з Каўказа і сімпатызаваў тутэйшым, з якімі там пазнаёміўся. Ён дазволіў братам спатканне сам-на-сам, без сведак. Потым Станіслаў змог зайсці ў кватэру брата і прагледзець паперы. Яго эскорт трымаўся каля дзвярэй, на адлегласці. Станіслаў забраў усё, што трэба, і выехаў з Ліды. Вольна ўздыхнуў толькі за горадам.

У хуткім часе Казаналі выслаў усіх арыштаваных у Вільню, дзе яшчэ кіраваў Назімаў. У палітычнай атмасферы яшчэ адчуваліся лагодныя плыні. Старшынём следчай камісіі ў той час быў Вісяліцкі, чалавек адносна добры. Судовае следства пра неабачлівыя словы Альберта Лясковіча цягнулася даволі доўга, потым Альберт адмовіўся ад іх, быў апраўданы і выйшаў на волю[34].

Бальтазар Калясінскі вярнуўся ў Ліду і зноў энергічна ўзяўся за працу. Яго арышт разарваў многія ніці ў папярэдне старанна сплеценай павуціне, аднак паводзіны Нарбута ўздымалі ў людзей што раз то большую сімпатыю і ўмацоўвалі веру ў будучыню, хаця бальшыня сялян паводзіла сябе пасіўна. Даўнія грахі шляхты, цемната сялян, адсутнасць нацыянальнай свядомасці і яшчэ свежая памяць пра цяжкую паншчыну не маглі выклікаць іншыя пачуцці сярод народных мас, таксама трэба асабліва ўлічваць актыўныя дзеянні царскага ўрада, які будзіў нянавісць да землеўладальнікаў у сялянскіх сэрцах і галовах. Заставалася яшчэ рэлігійная струна, на якую народ рэагаваў найбольш уразліва і на якой удавалася граць лягчэй.

У Дакудаўскай гміне войт Кохан меў напагатове некалькі соцень людзей, пераважна праваслаўных з даўнейшых уніятаў. Чакалі толькі выкліку.

У Тарноўскай гміне, дзе праца Калясінскага пакінула глыбокі след, прыведзены пад прысягу войт Марцін Якубоўскі стварыў першую сярод сялян арганізацыю і нават падрыхтаваў трошкі зброі. Планавалася, што сяляне паўстануць тады, калі падымецца Ліда. Народу заўсёды імпануе сіла. Калі б насельніцтва разгледзела яе ў паўстанні, дык напэўна падтрымала б яго.

Тым часам у ваколіцах Ліды ішла гарачая агітацыйная праца, ствараліся ўсё новыя праекты, іншым разам зусім фантастычныя. Думалі нават пра захоп казарм і пра арышт камандавання лідскай залогі і г.д. Больш цвярозымі былі думкі пра арганізацыю лідскага аддзела, які б мог злучыцца з Нарбутам. Гэтую работу даверылі некалькім актыўным і разумным маладым людзям, у тым ліку і Станіславу Калясінскаму. Вярбоўка ішла лёгка, ахвяраванні і складкі сыпаліся неспадзявана шчодра, некаторыя ўдовы нават ахвяравалі амаль апошнія грашы.

Калі Нарбут падышоў да Дубічаў, глеба была прыгатавана. Агульны запал у Лідзе і ваколіцах узняла прамова Баляслава Колышкі, які падаўся ў аддзел Серакоўскага, дзе потым стаў памочнікам. Колышка паходзіў з дробнай шляхты Лідскага павета. Адразу служыў у павятовым судзе ў Лідзе. Пры першым рэху рэвалюцыі падаўся ў Грэцыю[35] і паступіў у Вайсковую Акадэмію ў Кунеа[36]. Меў намер там застацца. Аднак, атрымаўшы весткі пра пачатак вызвольнага руху на радзіме, тут жа вярнуўся. Ён спяшаўся ў аддзел Серакоўскага. Аднак затрымаўся ў Лідзе, каб пабачыцца з роднымі. Пані Табенская[37], якая ўтрымоўвала жаноцкі пансіянат і жыла ў Лідзе, арганізавала Колышку ўрачыстым прыём, за які потым была арыштавана і выслана на Сібір[38].

За кароткі час каса Петрыкоўскага напоўнілася 18-цю тысячамі рублёў, а публічная ахвярнасць і рух, які распачаўся ў ваколіцах Ліды, даваў надзею на хуткае фармаванне атрада. Петрыкоўскі з пэўнай сумай грошай вырушыў пад Дубічы ў лагер Нарбута, каб павітаць правадыра, папоўніць яго касу і паінфармаваць аб стане рэчаў. Петрыкоўскі меў намер застацца ў лагеры паўстанцаў і дачакацца прыбыцця лідскага атрада і перадаць яго пад кіраўніцтва Нарбута.

Гарачы патрыёт і сумленны чалавек, Петрыкоўскі меркаваў пра людзей па сабе, сваёй меркай. Пакідаючы Ліду, ён даручыў збор грашовых ахвяраванняў аднаму з месцічаў - пану Каліноўскаму, нават прозвішча якога выклікала пэўны давер, але не ўзяў пад увагу слабы характар гэтага чалавека і вялікі ўплыў на яго жонкі, якая мела яўрэйскае паходжанне.

Петрыкоўскі, выязджаючы з Ліды, наказваў свайму намесніку не выпісваць ахвярадаўцам на мэты паўстання ніякіх квітанцый. Адзіным доказам свайго паўнамоцтва на збіранне грошай можна было паказаць дакумент Народнага Урада, які быў схаваны пад бэлькай на столі. Гэта ўсё стварала неправадольную, схільную да граху спакусу. І сталася рэч ганебная. Публічныя грошы зніклі бясследна. Як тады перадавалася з вуснаў у вусны - прагная жанчына, як другая Ева, падгаварыла да граху Адама.

Паводле пазнейшых падлікаў, у касу не патрапіла каля 30 000 рублёў, што можа даць уяўленне аб памеры ахвяраванняў у Лідскім павеце. Уся гэта мутная справа пры іншых абставінах магла быць толькі простай растратай, аднак, у той час аказала вялікі ўплыў на лёс лідскага паўстання.

**Раздзел IX**

*Чаканне над Дзітвой. Станіслаў Калясінскі. Фальшывая трывога. Расцярушванне лідскага атрада. Крадзеж зброі. Ніколка. Надмагільная пліта. Нападзенне на ксяндза. Пакаранне. Канцэнтрацыя войска. Перасцярога афіцэра ў Лідзе. Запозна*

Тым часам ва ўсіх ваколіцах Лідскага павета пачалі фарміравацца малыя і большыя паўстанчыя аддзелы, якія павінны былі сабрацца 11 красавіка на зборным пункце ў вёсцы Аўсядава, якая належала Зянкевічу (некалькі вёрст на поўнач ад Ліды).

Там яны павінны былі атрымаць зброю, амуніцыю, правіянт, нават некаторае абмундзіраванне, грошы і, злучыўшыся ў адно цэлае, як лідскі аддзел, рушыць у Дубічы пад камандаванне Нарбута. Усё было старанна прадумана і разлічана.

У Крупаўскім лесе аддзел чакаў тутэйшы землеўладальнік Тамаш Шукевіч, адзін з найбольш уплывовых людзей, які пры Геншалі выконваў абавязкі цывільна-праваавога памочніка кіраўніка павета. Разам з адважным Вільбікам, тагачасным сувязным-музыкам, які дастаўляў добраахвотнікаў у лагер паўстанцаў Нарбута, яны пачалі розныя прыгатаванні.

У Гейштаўтах і Гудэлях над ракой Дзітвой паўстанцаў чакалі 60 лодак для пераправы. Меліся запасы зброі, жыўнасці і амуніцыі. Станіслаў Калясінскі завербаваў 60 чалавек, пераважна са службоўцаў, рамеснікаў і засцянковай шляхты. Зброі было нават болей, чым было неабходна аддзелу. Да таго, як прагучыць сігнал збору ў Аўсядаве, усю яе неабходна было сабраць разам. Калясінскі знайшоў добрага памочніка, шчыра адданага справе чалавека: Андрэя Буткевіча (родам са Жмудзі), які вельмі палегчыў выкананне гэтага задання.

Добраахвотнікі мелі сабрацца ў маёнтку Клепцаўшчына[39], якім у той час валодалі Калясінскія і адкуль потым павінны былі выправіцца ў Перапецкі лес. Там, сфарміраваўшы шэрагі з яшчэ недысцыплінаваных элементаў, Калясінскі павёў іх праз Расляукі, млын у Пастаўшчыне, каля фальварка Адамовіча ў Малейкаўшчыну (фальварак сёння знаходзіцца ў чужых руках). Па дарозе сустрэлі семярых казакаў і, каб яны не нарабілі алярму ў ваколіцах, вырашылі іх застрэліць. Але казакі павярнулі ў другі бок.

*(Працяг у наступным нумары.)*

* Zofja Kowalewska. Dzieje powstania lidzkiego: wspomnienie o Ludwiku Narbucie. Wilno, 1934. Зоф'я Кавалеўская. Гісторыя Лідскага паўстання: успаміны пра Людвіка Нарбута. Вільня. 1934 г. Перадрук з "Дзённіка Віленскага". Пераклад і каментары Галіны Лаўрэш. Рэдагаванне і каментары Леаніда Лаўрэша.

[32] Ці Казаўлі, вайсковы начальнік Ваўкавыскага і Лідскага паветаў, палкоўнік. - *Л. Л.*

[33] Знакамітая цукерня Андрушкевіча знаходзілася на рагу вуліц Віленскай і Каменскай. - *Л. Л.*

[34] Паводле тагачасных аповедаў атрымаць волю арыштаваным дапамог такі выпадак: сярод членаў следчай камісіі быў генерал Беклямішаў, знаёмы Бальтазара Калясінскага з часоў яго выгнання і службы ў "вечных салдатах". У тыя часы ён быў маёрам і начальнікам Бальтазара. Падчас бою за Ацк-мячэць куля адарвала Беклямішаву нагу, і ён загінуў бы, каб не Бальтазар, які, узваліўшы камандзіра на плечы, вынес яго пад градам куль у бяспечнае месца. Калі арыштаваныя сталі перад следчай камісіяй, Беклямішаў пазнаў Бальтазара, сардэчна яго прывітаў і прадставіў Вісяліцкаму як свайго выратавальніка, чым дапамог Бальтазару і яго таварышам.

[35] Насамрэч, у Італію. - *Л. Л.*

[36] Вайсковай школа паўстанцаў, мела лагер у італьянскім горадзе Кунеа. -*Л. Л.*

[37] Альжбета Табенская, аўтарка ўспамінаў “З долі і няволі”, старэйшая сястра знакамітай Антаніны Табенскай. - *Рэд.*

[38] Паводле ўспамінаў Альжбеты Табенскай, яе за гэтую акцыю толькі выслалі з Ліды да бацькі, а пансіянат закрылі. Сібір - пазней. - *Рэд.*

[39] Фальварак каля в. Перапечыца - *Л. Л.*





# Нацыянальнае вызначэнне і будучыню краіны армяне звязваюць з пісьменствам і культурай

У чэрвені ў Арменіі праходзіў навуковы семінар рэстаўратараў і даследчыкаў каштоўных старажытных кніг "Лікі памяці".

У рамках семінара вядомы беларускі культуролаг і кнігазнавец, намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша наведаў Матэнадаран у Ерэване - сховішча старажытных рукапісаў, дзе знаходзяцца тысячы старажытнагрэцкіх і армянскіх хрысціянскіх дакументаў.

Беларускі даследчык скарыстаўся магчымасцю ўбачыць возера Севан і падняцца на гару Арагац. Пра свае падарожжа даследчык распавеў у эксклюзіўным інтэрв'ю.



- Семінар "Лікі памяці" быў арганізаваны больш за 10 гадоў таму менавіта армянамі. Некалькі інстытуцый аб'ядналіся і арганізавалі сапраўдную школу, семінар, практыкум у галіне рэстаўрацыі і кансервацыі кніжных помнікаў. Сёлета прайшоў 10-ты юбілейны семінар "Лікі памяці" пры падтрымцы Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва. У ім удзельнічалі краіны Балтыі, СНД, Украіна, Грузія і іншыя. Кожны год, апрача мінулага, эксперты прыязджаюць у Ерэван, дзеляцца досведам, расказваюць пра новыя дасягненні ў галіне рэстаўрацыі і кансервацыі кніжных помнікаў, паказваюць тэхналогіі ўзнаўлення аб'ектаў. Удзельнікамі мерапрыемства з'яўляюцца прадстаўнікі рэстаўрацыйных майстэрняў, музеяў, бібліятэк, установаў, якія займаюцца захаваннем культурнай спадчыны. Наша бібліятэка прымала ўдзел у гэтых акцыях з дакладамі, я выступаў там у 2018 годзе.

Сёлета была магчымасць камунікаваць з мясцовымі захавальнікамі старажытных рукапісаў і рэстаўратарамі, ацэньваць іх працу, дыскутаваць, прапаноўваць свае ідэі. Для мяне было важна даведацца пра досвед усходніх калег, бо ў іх іншыя рэаліі, іншае пісьмо, матэрыялы. Незвычайнае адчуванне, калі трымаеш у руках рукапіс V ці VII стагоддзя! Захапляюць таксама надпісы і тэксты на тэрыторыі замка Эрэбуні, датаваныя VIII стагоддзем да н.э., з якога пачынаецца гісторыя Ерэвана, там ёсць клінапісныя запісы, якія сведчаць пра з'яўленне горада. Створана копія вялікага каменнага дакумента ў выглядзе помніка. Клінапісная традыцыя часоў цывілізацыі Урарту вельмі цікавая!

Армянская дзяржава і армянскі народ надаюць шмат увагі захаванню сваёй кніжнай культуры. Нацыянальнае вызначэнне і будучыню краіны яны звязваюць з пісьменствам і культурай. Калі народ страціць сваю веру і свой алфавіт, здрадзіць справе продкаў, то ён знікне. Таму армяне на працягу стагоддзяў застаюцца цэласным этнічным фарміраваннем (нягледзячы на тое, што побач жылі прадстаўнікі самых розных этнасаў, не толькі армяне, не толькі хрысціяне), застаюцца паўнавартаснай актыўнай нацыяй, захоўваюць сваю краіну.

Нарэшце я трапіў у майстэрню да рэстаўратараў з Матэнадарана - культавай установы, якая займаецца захаваннем і вывучэннем кніжнай спадчыны Арменіі. Даследчыкі там працуюць над рукапісамі. Гэта адна з найлепшых інстытуцый у сваім родзе не толькі ў Арменіі, але і ў свеце.

Каштоўна, што я меў шанец убачыць унікальныя армянскія рукапісы 5-15 ст. у вітрынах і ўжывую патрымаць іх у руках, а таксама абмеркаваць з экспертамі, як яны іх рэстаўравалі і як сёння захоўваюць. Са мною былі эксперты з расійскага Эрмітажа, якія з такім жа захапленнем сачылі за кожным словам і дзеяннем армянскіх калег!

***- Спадар Алесь, раскажыце, калі ласка, што ўяўляе сабой Матэнадаран.***

- Матэнадаран, ці Інстытут старажытных рукапісаў Матэнадаран імя св. Мясропа Маштоца - гэта размешчаны ў Ерэване навукова-даследчыцкі цэнтр пры ўрадзе Рэспублікі Арменія, які з'яўляецца адным з найбуйнейшых сховішчаў рукапісаў у свеце (у тым ліку і старажытнаармянскіх), і галоўным цэнтрам рэстаўрацыі. Туды ездзяць вучыцца рэстаўратары з многіх краін свету, у тым ліку з Беларусі.

Пры інстытуце створаны ўтульны музей для наведвальнікаў. Слова "матэнадаран" у перакладзе з армянскай мовы азначае "сховішча рукапісаў". Інстытут Матэнадаран быў створаны на базе нацыяналізаванай у 1920 годзе калекцыі рукапісаў Эчміядзінскага манастыра.

Пачатак стварэння гэтай калекцыі датуецца V стагоддзем і звязаны з Мясропам Маштоцам (каля 361-440), стваральнікам армянскай пісьмовасці. Ужо ў V стагоддзі Лазар Парпецы паведамляў, што пры Эчміядзінскім манастыры існуе кнігасховішча.

Эчміядзінскі матэнадаран быў абвешчаны дзяржаўнай уласнасцю 17 снежня 1929 года. У 1939 годзе калекцыя была перавезена з Эчміядзіна ў Ерэван. Сучасны будынак Матэнадарана быў пабудаваны ў 1959 годзе па праекце архітэктара Марка Грыгарана. У 1984 годзе быў выдадзены першы том агульнага каталога калекцыі Матэнадарана.

Па стане на 2015 год, фонды Матэнадарана налічваюць больш за 17 тыс. старажытных рукапісаў і больш за 100 тыс. даўнейшых архіўных дакументаў. Разам з армянскімі рукапісамі (11230 паўнавартасных і 2200 фрагментарных), тут захоўваецца больш за 2000 рукапісаў на рускай мове, іўрыце, лаціне, арабскай, сірыйскай, грэчаскай, грузінскай, індыйскай, японскай, персідскай і іншых мовах. У фондах музея захоўваюцца 2281 старадрукаваных (да 1800 года) кніг. У наш час калекцыя працягвае папаўняцца - значны ўнёсак у яе пашырэнне робяць прадстаўнікі армянскай дыяспары ў Еўропе, ЗША і г.д.



Калекцыя Матэнадарана з'яўляецца каштоўнай навукова-гістарычнай базай для вывучэння гісторыі і культуры Арменіі, а таксама суседніх народаў Каўказа, Блізкага і Сярэдняга Усходу. У Інстытуце захоўваюцца рукапісы V-XVIII стагоддзяў, а таксама ўнікальная калекцыя першадрукаваных і старадрукаваных армянскіх кніг XVI-XVIII стагоддзяў, творы старажытных і сярэднявечных армянскіх гісторыкаў, пісьменнікаў, філосафаў, матэматыкаў, географаў, лекараў, пераклады на армянскую прац старажытнагрэчаскіх, сірыйскіх, арабскіх і лацінскіх навукоўцаў, у тым ліку шэраг твораў, што не захаваліся на мове арыгінала. У музеі Інстытута экспануюцца шматлікія ўзоры старажытнаармянскай пісьмовасці і кніжнай мініяцюры. Там створаны выдатныя ўмовы для захавання рукапісаў.

***- Перад будынкам інстытута пастаўлены помнік вучонаму, асветніку місіянеру Мясропу Маштоцу, заснавальніку армянскага алфавіта.***

***Ён спрычыніўся да распаўсюджвання хрысціянства ў Арменіі, заснаваў Вагаршапацкую семінарыю, быў далучаны да ліку святых Армянскай Апостальскай царквы. Лічыцца, што менавіта ён паспрыяў захаванню нацыянальнай ідэнтычнасці армян.***

- Мясропа Маштоца можна параўнаць з Кірылам і Мефодзіям. Ён - сапраўды, унікальная персона для армян. Яму ўсталявана шмат помнікаў, яго імем названы вуліцы. Месца яго спачыну знаходзіцца недалёка ад гары Арагац, на якую мне давялося падняцца.Там стаіць помнік хрышчэнню Арменіі і створана вялікая кампазіцыя з выявамі літар армянскага алфавіта.

***- Вам давялося пабачыць кнігу армянскага друкара, які мог быць знаёмы з Францішкам Скарынам у Венецыі.***

- Так. Першая кніга, надрукаваная на армянскай мове, - "Урбатагірк" ("Пятнічная кніга"), выпушчаная Акопам Мегапартам у Венецыі ў 1512 г. Менавіта гэтая дата ўзгадвалася ў 2012 годзе, калі на высокім міжнародным узроўні было арганізавана святкаванне 500-годдзя армянскага кнігадрукавання, на якое былі запрошаны таксама беларусы. Перад гэтым абмяркоўвалася наданне Ерэвану статусу кніжнай сталіцы свету.

Шмат падобнага тут маем з беларускім кнігадрукаваннем і нашым Скарынам. Першадрукары абедзвюх традыцый пачыналі сваю выдавецкую працу ў замежных кніжных асяродках і абодва былі звязаныя з Венецыяй. Абодва працавалі амаль у адзін і той час (у 1512 г.), калі Акоп надрукаваў у Венецыі сваю першую кнігу, Скарына як раз у Венецыі (Падуі) здаваў экзамены на доктара медыцыны, а потым і сам заняўся кнігадрукам. Абодва друкавалі кнігі невялікага фармату, у дзве фарбы, з выключкай па шырыні і аздаблялі іх гравюрамі-дрэварытамі. Для вырабу першых беларускіх і армянскіх кніг давялося "з нуля" ствараць новыя шрыфты. Першадрукі беларусаў і армян захаваліся ў вельмі невялікай колькасці і сёння лічацца нацыянальнымі святынямі. Яны ўключалі малітвы (у тым ліку рыфмаваныя) і набожныя тэксты, а таксама іншыя матэрыялы і звесткі.

Так і напрошваецца думка: ці не мог Скарына бачыць у Венецыі нараджэнне армянскага кнігавыдання і ці не мог пад яго ўплывам пайсці тым жа шляхам?

***- Хрысціянская Апостальская Царква Арменіі вельмі старажытная. Пропаведзь веры пачалася з дзейнасці апосталаў Фадзея і Варфаламея.***

***Арменія - адна з першых краін, якія прынялі хрысціянства.***

- Сапраўды, першая, якая зрабіла хрысціянства дзяржаўнай рэлігіяй.

Культура гэтай краіны найбагацейшая, традыцыя вельмі цікавая! На паўднёвым усходзе ад Ерэвана давялося ўбачыць адзін з найстарэйшых манастыроў Гегарт. Там у першым тысячагоддзі знаходзіліся кіраўнікі Армянскай Апостальскай Царквы да пераезду ў Эчміядзін.

Такі знакаміты культавы духоўны цэнтр у гарах каля рэчкі, там засталіся храмы і пячоры, якім больш за тысячу год. Там цудоўная, проста неапісальная акустыка! У пераважнай большасці манастыры складзены з туфавага каменю. Адна з маіх прыгодаў была звязана з паездкай на возера Севан.

Нарадзілася ідэя сустрэць світанак над Севанам, абмеркавалі ідэю з кіроўцам і прысвяцілі гэтаму вольную раніцу. Над возерам Севан на паўвыспе знаходзіцца манастыр Севанавак. Ён пабудаваны не з туфу, а з чорнага вулканічнага каменю, засталося некалькі храмаў. Там быў востраў, які стаў паўвостравам.

На пачатку 20-га стагоддзя нарадзілася ідэя часткова асушыць возера Севан, (каб вызваліць глебу для пасеваў), якая ледзь не давяла да нацыянальнай трагедыі. У 1936 годзе пачалі вялікі праект, пабудавалі шмат каналаў, гідраэлектрастанцый, і возера пачало мялець. Кожны год па метры падала глыбіня. У выніку ў канцы 60-тых гадоў было ледзь не страчана возера. Армяне забілі ва ўсе званы, бо не хацелі страчваць сваю прыродную разнастайнасць. Розныя віды рыб пачалі выміраць, знакамітая севанская фарэль пачала скрачацца ў колькасці, пачаў мяняцца колер вады. З таго часу армяне ініцыявалі праект адраджэння возера Севан, спрабуючы з іншых рэк перакінуць ваду ў возера Севан. Для гэтага яны пачалі капаць шмат тунэляў, каб спусціць ваду у возера з суседніх рэчак, і ўзровень вады пачаў паднімацца толькі ў 2014 годзе. Цяпер кожны год дабаўляецца па 40 сантыметраў вады. У выніку колішні высокі скальны востраў, на якім знаходзіўся манастыр (ён служыў абаронным мэтам для армянскай дзяржавы, менавіта там абараняліся ад арабаў армянская дзяржава), ператварыўся ў паўвостраў, куды можна прайсці пешкі. У манастыр высылалі мяцежных манахаў з Эчміядзіна. Там мы сустрэлі світанне...

***- Як жыццё праходзіць у сучасным Ерэване?***

- У Ерэване не просты час, кавід разбурыў многія планы. Нядаўна прайшла вайна, якая выклікала моцную дэпрэсію ў армянскім грамадстве. Тым не менш, армяне гасцінныя і адкрытыя, як былі ва ўсе часы. Нас сустракалі і нам дапамагалі валанцёры.

***- У Арменіі Вас як культуролага зацікавілі езіды. Што гэта за народ?***

- Хто такія езіды? Яны з'яўляюцца паслядоўнікамі старажытных зараастрыйцаў-вогнепаклоннікаў, размаўляюць на сваёй мове, моляцца сваім багам...

Пра езідаў раней я толькі ў кнігах ды інтэрнэце чытаў, а чуў па тэлебачанні пра іх. Асабліва, калі ў 2014 г. іх як нявервых масава знішчалі на тэрыторыі Ірака прадстаўнікі "Ісламскай дзяржавы". Але гэта ўсё было далёка і некалькі экзатычна. Каб ужывую сустрэцца з вогнепаклоннікамі - не меў такіх спадзяванняў.

***- Дзякуем Вам за аповед, жадаем Вам поспехаў!***

*Гутарыла Эла Дзвінская,*
*фота з архіва Алеся Сушы.*



1. Алесь Суша ля падножжа гары Арагац.
2. Матэнадаран у Ерэване і помнік Мясропу Маштоцу.
3. Старажытная армянская кніга.

*Язэп Палубятка*

# На шалях надзеі і смутку

**Самота**

Вечар запаліць зоркі на небе,
Кіне пад ногі жменю расы,
Сумна, журботна і сэрца ў трывозе,
Дзе ж ты, каханая? Дзе гэта ты?
Дзе, па якіх ты блукаеш сцяжынках,
Чым жа акрэслены дзіўны твой шлях?
Выйдзі насустрач і знікне слязінка,
Што заблішчэла ў цябе на вачах.
Стрэнемся мы каля чыстай крыніцы,
Дзе срэбным струменем вадзічка бруіць,
Будзем піць водар вуснаў сунічных,
Бачыць вачэй васількова блакіт.
Плечы твае ахіну туманамі,
Пяшчотаю сэрца твае агарну,
Радасць і шчасце крочыць за намі.
Вер, што кахаю цябе я адну!

**Якая ноч...**

Якая ноч! І ні радка
На белым аркушы паперы,
А завіруха ля акна
Выводзіць сумныя напевы.
Там цемень, холад. Там нуда.
Там снег крупою засціць вочы,
І падарожнаму бяда -
Са шляху толькі бы не збочыць.
Тут свечкі коціцца сляза.
І цішыня. І адзінота.
Што ў гэту ноч перакажу
Я сам сабе: мая бядота.
Жыццё сваё перагляджу,
І буду радзіцца, як быць мне.
І буду ставіць кожны крок
На шалі крохкія сумнення,
І буду, буду зноў знарок
Я турбаваць сваё сумленне.
І буду ім усё ламаць,
Што збудаваў крывёй і потам:
Сябе хваліць, сябе караць
І спавіваць калючым дротам...
О, час расплаты! Чорна час!
Мне б дачакацца толькі ранку,
Пайшла мяцеліца бы прэч,
А я сумёты змёў бы з ганка.

* * *

Каханая павінна быць адзінай,
Свая старонка - маці роднай,
Нашчадкі мець заўжды кавалак хлеба,
Над галавою быць блакіту неба.

Каханне ў ложку месціцца са здрадай,
Свая старонка прэч нас гоніць,
Апошнюю скарынку ямо самі,
А хмары чорныя спрадвек над намі.

**Маё развітанне з радзімай**

Жоўкне лісце на дрэвах, жухне ў доле трава.
Птушак клін рэжа крыкам паветра. Пара.
Вёрсты доўгай дарогі
мераць уласным крылом,
Сумаваць па тым краі, дзе
бацькоўскі твой дом.
Так і я пакідаю свой родны куток,
Каб увесну вярнуцца знарок.



**Канчаецца дзень...**

Дождж.
Вечарэе.
Канчаецца дзень.
Хмурых надворкаў
зацятая немач.
Ад ліхтароў
асвятляльных
маркотны цень...
На бальшак!
Ды хутчэй!
...І там -
праклятая цемень.
Выкалаць вока і не ступіць,
а ў душы хоць бы бляклы праменьчык
кволай надзеяй не заблішчыць.

**Спадзяванне ў восеньскі сум**

Лета-старэча сыходзіць ад нас
І адлятае бусел.
Хутка настане сумны час,
Восень сустрэнуць мусім.

І карацеюць за днямі дні,
Хмарамі млосць наганяюць.
Мы засталіся з табою адны,
Голыя дрэвы нам спагадаюць.

Сонца скупое, як воўчае вока,
Бліснe і зразу патухне.
Бачна па ўсім, што зіма недалёка,
І да яе мы прывыкнем.

А ў журбоце не ўсё аднастайна,
Цешацца мрояй надзеі.
Будзе вясновае адтаванне,
Хмары вясною радзеюць.

* * *

На шалях надзеі і смутку
Гойдаюся даўно.
Няма для душы паратунку,
Жыццё, як нямое кіно.
Жыццё без прасвету, спагады,
Спагада - што гэта за рэч?
Не трэба мне вашай парады,
Ідзіце вы з ёю прэч!

*г. Масты.*

# Хоць "Лявоніху", хоць кракавяк. На Лідчыне танцуюць усе!

Мінулыя выхадныя вызначыліся гарачым надвор'ем і былі насычаныя культурнымі падзеямі. Адной з самых "гарачых" стаў танцавальны "ЭтнаБум", які "ўзарваў" у танцах не толькі Лідчыну, але і ўсю Гарадзенскую вобласць.

Унікальны праект "ЭтнаБум" - ініцыятыва ўпраўлення культуры Гарадзенскага аблвыканкама - заклікаены папулярызаваць традыцыйную культуру і захоўваць рэгіянальныя асаблівасці танцу. Падобных праектаў дагэтуль на Гарадзеншчыне, ды і ў Беларусі не было. Толькі аднадзённыя фестывалі (напрыклад, абласны фестываль "Танцуем па-даўнейшаму" з прапіскай у Лідзе).

"ЭтнаБум", наадварот, будзе насіць рэгулярны характар і прадоўжыцца ўсё лета. Штотыдзень на пляцоўках устаноў культуры будуць праходзіць майстар-класы па беларускіх побытавых танцах. Работнікі культуры запросяць да ўдзелу мясцовае насельніцва і навучаць танчыць хоць "Лявоніху", хоць кракавяк, а то і "Мальвіну", "Лысага" ці "Падэспань".

Старт праекту быў дадзены ў мінулую суботу ў 19.00. На Лідчыне танчылі, здавалася, усе! На пляцоўках каля ўстаноў культуры аграгарадкоў амаль адначасова кінуліся ў скокі прафесіяналы і аматары танцаў. Можна не сумнявацца: у нас танчылі лепш за ўсіх!

Ад самых простых рухаў да трохкроку… Работнікі культуры ўпэўнены: асвоіць беларускі танец можа любы ахвочы. Галоўнае - навучыцца правільна трымаць рукі, спіну, не блытацца ў кроках у час энергічных скокаў. Ну, і, вядома, рэгулярная практыка. "ЭтнаБум" - лепшая для гэтага магчымасць.

Многім удалося станчыць так, каб аж пыл ляцеў з-пад абцасаў! І не стаміцца зусім, а наадварот, напоўніцца цудоўнай энергіяй самабытнага беларускага танцу.

Наступны "ЭтнаБум" чакае зацікаўленых жыхароў і гасцей Лідчыны ў бліжэйшую суботу. Актуальная інфармацыя - на сайце Лідскага раённага цэнтра культуры і народнай творчасці, Тэлеграм-канале цэнтра і на сайце "Культура Лідчыны".

***Вольга Яхантава,***
*lidanews.*











*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by, kajety@list.ru



**http://nslowa.by/**
**http://pawet.net/ http://kamunikat.org/**
**http://tbm-mova.by/ http://belkiosk.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 28.06.2021 г. у 17.00. Замова № 1454.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1200 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 2,88 руб., 3 мес.- 8,64 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.